Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка
№20 - 2012

# Прэзумпцыя

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

## Беларусь пасля выбараў працягвае заставацца краінай палітвязняў




**Цывілізаваны свет лічыць, што выбары дэпутатаў палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання прайшлі з сур'ёзнымі парушэннямі выбарчага заканадаўства Рэспублікі Беларусь і працягвае змагацца за вызваленне беларускіх палітычных зняволеных.**

# Прадстаўнікі 33 праваабарончых арганізацый заклікалі ўлады Беларусі вызваліць Бяляцкага і даць магчымасць прадоўжыць працу "Вясне"

33 праваабарончыя арганізацыі, якія ўваходзяць у Міжнародную платформу "Грамадзянская салідарнасць", заклікалі ўлады Беларусі зняць усе абвінавачанні з праваабаронцы Алеся Бяляцкага і неадкладна вызваліць яго, дазволіць праваабарончаму цэнтру "Вясна" працягваць працу ў яго памяшканні, а таксама спыніць рэпрэсіі ў дачыненні да праваабаронцаў краіны.




Аб гэтым гаворыцца ў заяве, якую падпісалі прадстаўнікі праваабарончых арганізацый каля 20 краін, паведамляе БелаПАН.

Міжнародныя праваабаронцы асуджаюць, у прыватнасці, канфіскацыю офіса "Вясны". "Гэтыя дзеянні з'яўляюцца чарговым праяўленнем парушэння свабоды асацыяцый з боку ўлад Беларусі, якія працягваюць націск на іншадумцаў і спрабуюць аб'явіць праваабаронцаў па-за законам, запужваць іх і крымінальна праследаваць. Нягледзячы на тое, што свабода асацыяцый гарантавана беларускай Канстытуцыяй, улады краіны парушаюць Асноўны закон, а таксама міжнародныя стандарты, ратыфікаваныя Рэспублікай Беларусь у рамках ААН, і абавязацельствы, узятыя дзяржавай на сябе ў рамках АБСЕ", — гаворыцца ў заяве.

Яны таксама нагадваюць, што суд над Бяляцкім "быў адзначаны грубымі парушэннямі права на абарону і права на справядлівы суд". "Ніводнаму міжнароднаму назіральніку не ўдалося атрымаць візу для таго, каб прыехаць у Беларусь і прысутнічаць на судзе; сярод тых, каму было адмоўлена ў беларускай візе, былі супрацоўнікі Міжнароднага партнёрства за правы чалавека (IPHR) і Нарвежскага Хельсінкскага камітэта, арганізацый — членаў платформы "Грамадзянская салідарнасць". Канфіскаваная кватэра была памяшканнем, у якім "Вясна ажыццяўляла сваю дзейнасць на працягу 12 гадоў", — гаворыцца ў заяве.

"Платформа "Грамадзянская салідарнасць" асуджае новыя крокі беларускіх улад, накіраваныя на спыненне дзейнасці вядомай няўрадавай арганізацыі, якая працягвае мужна выконваць сваю працу, нягледзячы на турэмнае зняволенне свайго кіраўніка і сур'ёзны ціск, які адчуваюць яе члены на працягу апошняга года", — заяўляюць праваабаронцы.

Таксама платформа заклікала міжнародную грамадскасць падтрымаць свае патрабаванні і прадоўжыць заклікі да Аляксандра Лукашэнкі ўстрымацца ад далейшых рэпрэсій у дачыненні да грамадзянскай супольнасці.



# Дзяржсакратар ЗША заклікала вызваліць беларускіх палітвязьняў

29 лістапада яна выступіла з прамовай у інстытуце Брукінгса, прысьвечанай дачыненьням Амэрыкі і Эўропы.

«Кастрычніцкія выбары ва Ўкраіне былі крокам назад у дэмакратычным разьвіцьці краіны, і мы па-ранейшаму глыбока занепакоеныя выпадкамі выбарчага правасудзьдзя над лідэрамі апазыцыі.

У Беларусі ўлады працягваюць сыстэматычна парушаць правы чалавека, так што мы працягваем заклікаць да вызваленьня палітычных вязьняў і падтрымліваць тых адважных актывістаў, якія адстойваюць правы народа Беларусі», — заявіла дзяржсакратар.

# Вызваленне палітвязняў застаецца прыярытэтам Еўрасаюза

Еўрапейскі парламент будзе працягваць намаганні па вызваленні беларускіх палітвязняў, а таксама будзе рабіць чарговыя захады, каб была магчымасць наведвання іх ў турмах. Да гэтай пары ўсе спробы еўрадэпутатаў наведаць палітвязняў у Беларусі былі адхіленыя афіцыйным Мінскам, сказаў старшыня дэлегацыі Еўрапарламента па справах Беларусі Філіп Качмарэк.

– Ва ўсіх краінах, дзе ёсць палітвязні, Еўрасаюз прабуе арганізоўваць такія сустрэчы хаця бы па прычынах гуманітарных, а не палітычных. Часам трэба праверыць ці дадзеная асоба жывая, у якіх умовах адбывае пакаранне. Будзем старацца рабіць гэта ў большым маштабе, каб зрабіць з гэтага акцыю, якая з'яўляецца сама сабой формай націску на белурускія ўлады.



Па словах старшыні дэлегацыі па справах Беларусі ў Еўрапарламенце, пытанне беларускіх палітвязняў вельмі пільна адсочваецца на самым высокім узроўні. Чакаецца, што еўрадэпутаты ізноў вернуцца да пытання палітвязняў у Беларусі ў снежні, калі будзе абмяркоўвацца справаздача па выконванні правоў чалавека ў свеце.

# Крамлёўскі рэванш

***Усё ж нічога не вартая палітыка сучаснай заходняй дэмакратыі ў дачыненні да таталітарных рэжымаў. Няма там ні прынцыповых пазіцый, ні паслядоўных дзеянняў, ні сапраўдных каштоўнасцяў, якія толькі дэкляруюцца. Канешне, ёсць асобныя выдатныя палітыкі, некаторыя актыўныя грамадскія інстытуты, праваабарончыя арганізацыі, у якіх справа не разыходзіцца са словам. Яны робяць усё, што ад іх залежыць, прыкладаюць значныя высілкі ў змаганні за справядлівасць, вольнасць іншых і праўду. Але гэта ўсё не робіць асноўнай палітычнай пагоды. Бо куды гэтым шчырым энтузіястам і рупліўцам дэмакратыі да гаспадарчых канцэрнаў-монстраў, да магутных фінансавых кланаў, да наскрозь прагматычных палітычных груповак і ўсёахопных спецслужбаў.***

Дэградавалі і многія раней аўтарытэтныя інстытуты. Той жа Нобелеўскі камітэт раздае прэміі міру кожны год усё абсурдней. А той, хто яе заслугоўвае сапраўды, шанцаў на яе ня мае. Прыкладам, сітуацыя з намінаваннем на прэмію трох лідараў былых саюзных рэспублік – Украіны, Беларусі, Расіі, якія мірна аформілі распад прагнілай наскрозь савецкай імперыі. За Белавежскія пагадненні, за дэмілітарызацыю, Леанід Краўчук, Станіслаў Шушкевіч і Барыс Ельцын як ніхто заслугоўвалі такога ўганаравання, аднак прэмія міру так і не была ім прысуджана. Куды ўжо там ахвярным праваабаронцам і змагарам за справядлівасць з Кітаю, Бірмы, Беларусі, якіх адкінулі пры разглядзе кандыдатур сёлета. Так што такія рэжымы, як кітайскі, расійскі, паўночнакарэйскі могуць яшчэ доўга здзекавацца з сваіх народаў, звонку ім нічога і ніхто не будзе замінаць.

Крамлёўскія ўладары адчуваюць зараз надзвычайную эйфарыю. Уладзімір Пуцін напэўна ўжо прымервае тогу Аляксандра Македонскага. Не меней. Паглядзіце яшчэ гадоў сем-восем таму – колькі няўпэўненых зонаў уплыву было ў Расіі, шэраг імперскіх сцэнароў якой на постсавецкай прасторы папросту з трэскам праваліўся. У суседняй Украіне перамагла аранжавая рэвалюцыя і кіравалі Віктар Юшчанка і Юлія Цімашэнка. Дачыненні з Грузіяй пасля яшчэ адной мірнай трансфармацыі – “рэвалюцыі ружаў” былі сапсаваны ўшчэнт. Да канца паразумецца з аб’яднанай Еўропай істотна замінаў польскі прэзідэнт Лех Качыньскі. З немцамі крамлёўскія стратэгі ўжо даўно пра ўсё былі дамоўленыя. Але яшчэ з адным сваім гістарычным супернікам – ЗША – ішло яшчэ не ўсё гладка.




Хоць справядлівасці дзеля трэба сказаць, што ўжо пры рэспубліканцы Джорджу Бушу-малодшым пачалася палітыка, якую пазней ахрысцілі як “перазагрузка”. І вось за апошні, як для гісторыі зусім непрацяглы перыяд, у краінах, першыя асобы і ўрады якіх ніяк не задавальнялі Маскву, адбыліся кардынальныя змены. Пасля смаленскай катастрофы стасункі з Польшчай за кароткі час істотна палепшыліся, фактычна для Крамля знікла “польскае пытанне”. На Украіне ўдалося ўзяць поўны рэванш у “аранжыстаў”. Належна “аформлены”, апрача сапраўды незалежнай і ўнікальнай Эстоніі, і былыя прыбалтыйскія рэспублікі – Літва і Латвія, урады якіх не здолелі стварыць эфектыўную і дзейсную гаспадарчую сістэму. З Еўропай у Масквы, здаецца, поўная гармонія. Скажыце, ну што можа насуперак пазіцыі Расіі выказаць, прыкладам, новы кіраўнік Францыі Аланд, у палітыцы якога найважнейшы клопат – узаконіць аднаполыя шлюбы!? А ў Амерыцы Расія атрымала на другі тэрмін абсалютна лаяльнага да яе Абаму з яго адміністрацыяй, няздольных на нейкае шырокае разуменне геапалітычных працэсаў. Ды і не да Расіі зараз Амерыцы. Сам Пуцін нібыта ўмацаваў свае царскія паўнамоцтвы і працягвае тварыць на бяскрайніх расійскіх прасторах усё, што хоча.

Крэмль зараз сапраўды ў эйфарыі – там думаюць, што ўхапілі Бога за бараду. Але ўсе маскоўскія перамогі могуць ужо ў бліжэйшым часе стацца піравымі. Новая расійская імперыя – гэта калос на гліняных нагах. Гэтую дзяржаву даўно раздзіраць сацыяльныя, нацыянальныя і канфесійныя супярэчнасці. За ўсе свае нібыта “перамогі” яна таксама плаціць высокую цану – найяскравейшы прыклад тут з заваяваннем Ічкерыі.

Трэба меркаваць, што ўжо ў бліжэйшы час Крэмль актывізуецца ў працэсе інкарпарацыі і так сур’ёзна залежнай ад яго Беларусі. І тут зраблю адчайны прагноз – вось тады і пачнецца крах яго ганебнай палітыкі...

*Уладзімір Хільмановіч*

# Хроніка правапарушэнняў

## Гарадзеншчына

### Крымінальныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці

Папярэдняе следства па справе гарадзенскага журналіста Андрэя Пачобута працягнутае да **21 кастрычніка** для правядзення дадатковых следчых дзеянняў. Журналіст, паводле **часткі 2 артыкула 367** Крымінальнага кодэкса, абвінавачваецца ў паклёпе на прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку.

**22 кастрычніка** стала ведама, што папярэдняе следства па справе гарадзенскага журналіста Андрэя Пачобута працягнута яшчэ на месяц.



**21 лістапада** стала ведама, што папярэдняе следства па справе гарадзенскага журналіста Андрэя Пачобута працягнута яшчэ на месяц.

У канцы лістапада была прызначана яшчэ адна лінгвістычная экспертыза тэкстаў журналіста Андрэя Пачобута. Карэспандэнта польскай «Gazety Wyborczej» па крымінальнай справе "паклёп на прэзідэнта" за артыкулы на сайтах «Хартыя'97» і «Беларускі партызан». Новую экспертызу павінны правесці супрацоўнікі гарадзенскага ўніверсітэту.

### Адміністрацыйныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці

Адміністрацыйныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасці былі пераважна па справах удзелу ў "несанкцыянаваных акцыях". Ішоў пераслед таксама па прыкмеце выдання і напісання беларускіх гістарычных кніжак. Былі зафіксаваныя і іншыя формы дыскрымінацыі і пераследу.

**18 кастрычніка** рэдактара "Архэ" аштрафавалі на 5 базавых і сканфіскавалі кнігі. Агульная сумма штрафу склала 885 тыс рублёў. Гаспадарчы суд Гародні прызнаў Валера Булгакава вінаватым у вядзенні прадпрымальніцкай дзейнасці без адпаведнага дазволу.

**27 кастрычніка** на традыцыйны Дзень памяці паўстанцаў 1863 году ў Сьвіслачы міліцыя затрымала 4-х чалавек. Вітольд Ашурак з Бярозаўкі, Алесь Крот з Мінску, Станіслава Гусакова з Віцебску былі засуджаны да трох сутак адміністрацыйнага арышту, гарадзенца Віталя Лопасава засудзілі да 30 базавых велічынь грашовага штрафу (усе гэтыя працэсы вёў суддзя Аляксандар Шылін).

**27 лістапада** суддзя Сьвіслацкага раённага суду Жана Салагубік засудзіла свіслацкіх грамадскіх актывістаў Анатоля Валюка, Віктара Дзесяціка і Юрыя Глебіка да штрафу ў 10 базавых велічынь кожнага за ўдзел у нібыта несанкцыянаванай акцыі 27 кастрычніка ў традыцыйным Дні памяці паўстанцаў 1863 году.



**13 снежня** Свіслацкі раённы суд асудзіў бярозаўскага актывіста Сяргея Трафімчыка. Яго звінавацілі ва ўдзеле у несанкцыянаваным мерапрыемстве і пакаралі штрафам у 8 базавых велічынь.

**18 снежня** скончыўся судовы працэс па адміністрацыйнай справе грамадска-палітычнага актывіста з мястэчка Варняны Мікалая Уласевіча. Астравецкі раённы суд прызнаў актывіста вінаватым і аштрафаваў яго на 40 базавых велічынь. Гэты адміністрацыйны працэс стаў рэкордным на Гарадзеншчыне па працягласці – спатрэбілася ажно 9 (!) паседжанняў.

**20 снежня** адбыўся разгляд справы Алеся Кіркевіча па ўдзеле ў Сьвіслацкай акцыі памяці – штраф 8 базавых велічынь. Гарадзенку Ірыну Данілоўскую Свіслацкі раённы суд асудзіў без яе прысутнасці таксама на 8 базавых велічынь.

# Хроніка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына*

## Іншыя формы пераследу, дыскрымінацыі і парушэння заканадаўства з боку ўладаў

**2 кастрычніка**, на кватэру да астравецкага актывіста Мікалая Уласевіча прыйшлі два супрацоўнікі міліцыі і склалі адміністрацыйны пратакол нібыта за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4 КаАП РБ), якое мела месца 21 верасьня. 21 верасня ў Астраўцы вечарам былі затрыманыя Мікалай Уласевіч і Іван Крук. Сябраў Аб'яднанай грамадзянскай партыі затрымалі ў той час, калі яны расклейвалі улёткі з заклікам да байкоту выбараў, затрыманне праводзілася ў розных месцах. Уласевіча абшукалі асабіста, даглядалі аўтамабіль, а таксама правялі ператрус у яго дома.

**6 кастрычніка** Гарадзенскі абласны суд не задаволіў скаргу партыі БНФ аб нерэгістрацыі абласной арганізацыі Упраўленнем юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкама. Суддзя Зоя Нікольская не знайшла антызаконных дзеянняў у рашэнні рэгіструючага органа і адмовіла абласной арганізацыі ў магчымасці легальнай дзейнасці на тэрыторыі Гарадзенскай вобласці. 16 кастрычніка каля 17-й гадзіны да Уласевіча дахаты завітаў участковы інспектар і прапанаваў яму зрабіць пісьмовыя тлумачэнні з нагоды інтэрв'ю, якое Уласевіч даў сайту «Беларускі партызан» і якое некалькі дзён таму было змешчана на гэтым інфармацыйным рэсурсе пад назвай «Мікалай Уласевіч: Я хаджу па правакацыях КДБ, як па мінным полі». Уласевіч ад тлумачэнняў супрацоўніку міліцыі адмовіўся.

**6 лістапада** слонімскага доктара, актывіста Партыі БНФ Івана Шэгу выклікалі ў мясцовую інспекцыю па падатках і зборах па Слонімскаму раёну, дзе яму выказалі заўвагі наконт таго, што ён не адлічае падаткаў за дзейнасць недзяржаўнай асветніцка-кансультатыўнай установы "Шэгамедкансульт".

**3 снежня** прадказальнай адмовай Гарадзенскага абласнога суду скончыўся разгляд скаргі прадстаўніка партыі АГП Віталя Лопасава на прадмет незаконнасці штрафу, да якога актывіст быў засуджаны Свіслацкім раённым судом за ўдзел у Дні памяці паўстанцаў 1863 году, што праводзіўся 27 кастрычніка. Суддзя Пётр Бандык палічыў прысуд раённага суду законным.




**3 снежня** слонімскага грамадскага актывіста Івана Бедку наведалі чатыры міліцыянеры. Яны прыйшлі да яго дадому, каб скласці пратакол наконт таго, што спадар Бедка расклейвае ўлёткі на дамах сваёй вуліцы Першай Сямігодкі і гэтым самым парушае грамадскі парадак. Іван Бедка адмовіўся падпісваць паперы і папрасіў міліцыянераў пакінуць яго кватэру.
7 снежня ў Гародні ў судзе Ленінскага раёну завяршыўся працэс па грамадзянскай справе гісторыка Андрэя Чарнякевіча. У кастрычніку бягучага году дацэнт Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя Янкі Купалы Андрэй Чарнякевіч быў звольнены з працы выкладчыка нібыта за парушэнне працоўнай дысцыпліны. Свае правы на працу гісторык паспрабаваў давесці праз суд, але суддзя Людміла Жукоўская стала на бок універсітэцкай адміністрацыі.

**10 снежня** ў дзень абвешчання сусветнай Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека гарадзенскія праваабаронцы зладзілі шэраг акцый. На вуліцы прадстаўнікі праваабарончага цэнтру "Вясна", Беларускага Хельсінкскага Камітэту і незалежныя праваабаронцы нагадалі жыхарам пра зняволенага Алеся Бяляцкага і міжнародны дзень правоў чалавека.

**20 снежня** ў Гарадзенскім абласным судзе адбыўся разгляд скаргаў трох свіслацкіх грамадскіх актывістаў – Віктара Дзесяціка, Юрыя Глебіка і Анатоля Валюка, якія аспрэчвалі пастановы Свіслацкага раённага суда. 27 лістапада суддзя Жана Салагубік засудзіла ўсіх трох да штрафу ў 10 базавых велічынь. Фармальны разгляд трох скаргаў доўжыўся хвілін па тры-пяць. Што беспрэцэдэнтна – тры аналагічныя скаргі разглядалі трое розных суддзяў – Бандык, Козел, Рачынскі, але з аднолькавым вынікам – у задавальненні скаргаў адмоўлена.

# Беларуская наіўнасць

***Мы, беларусы, наіўна думалі, што гэтым разам прадстаўнік нашай нацыі атрымае першую ў беларускай гісторыі Нобелеўскую прэмію. Шмат вартых гэтай узнагароды было беларусаў. Прыкладам, Ларыса Геніюш была не горшай і літаратаркай і дысідэнткай, чым іншыя змагары за праўду ў СССР якіх прэмія не абмінула. Ды вось не звярталі на беларусаў увагі неяк. Нават многія сцвярджалі, што беларусу ніколі гэтай прэміі не дадуць. Не такая, маўляў, гэтая краіна важная, каб яе прадстаўніку Нобеля даваць. Але зараз беларусы зноў абнадзеіліся.***

Ну, але! Нобелеўскі камітэт на чале з генеральным сакратаром Рады Еўропы аддаў прэмію Еўропе. Дакладней Еўразвязу. Застаецца толькі сардэчна павіншаваць жыхароў Еўразвязу з такой высокай ўзнагародай як Нобелеўская прэмія міру. Камітэт па ўручэнні гэтай прэстыжнай прэміі доўга думаў, хто больш зрабіў для ідэяў міру - Еўразвяз, ці беларускі змагар за правы чалавека Алесь Бяляцкі. І прыйшоў да высновы, што Еўразвяз зрабіў больш.

Прайграць цэламу Еўразвязу не сорамна. Ды здаецца, ніхто самой высновы найвялікшага ўнёску Еўразвязу ў справу міру не стаў аспрэчваць. Было б сапраўды дзіўным, калі б адзін чалавек зрабіў больш чым цэлы кантынент. Дык чаму ж тады гэтае рашэнне выклікала здзіўленне і незразумеласць у такой вялікай колькасці паважаных людзей, у ліку якіх ёсць і нобелеўскія лаўрэаты? Дзіва нейкае! Тое што прайграўшыя беларусы засмуціліся - гэта натуральная рэакцыя. Але тое, што пераможцы не лікуюць, выклікае здзіўленне.

Можа найперш таму, што вельмі ж цяжка прасачыць логіку гэтага рашэння. Зразумела нават дурню, што з Еўразвязам канкураваць не ў стане ні асобныя людзі, ні нават арганізацыі. Прычым не толькі ў намінацыі міру, але і ва ўсіх астатніх. Дык чаму тады ў галіне фізікі, прыкладам, ці літаратуры, узнагароды даставалі асобныя людзі а не ўсё той жа Еўразвяз? Няўжо цэлы Еўразвяз з яго ўсімі навуковымі і культурніцкімі штатамі супрацоўнікаў здзейсніў менш, чым асобныя людзі, і не змог у гэтых наменацыях перамагчы нейкіх канкрэтных навукоўцаў і літаратараў?




Наўрад ці. Гэтак жа, як і лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру Барак Абама, наўрад ці змог бы, пры ўсім жаданні, зрабіць больш чым уся краіна Злучаныя Штаты Амерыкі, з іх шматвекавой гісторыяй змагання Амерыкі за ідэалы міру. Але ж узнагароду міру ўручылі не усім ЗША ў цэлым, а толькі іх прадстаўніку Бараку Абаму. І не за ўвесь перыяд дзейнасці штатаў, а толькі за канкрэтныя памкненні ў адзін канкрэтны год.

Дык чаму ж зараз, менавіта ў гэты год, калі яшчэ не завершана да канца фармаванне Еўразвязу, калі ёсць яшчэ еўрапейскія краіны, у тым ліку і Беларусь, якія не ўваходзяць у адзіную еўрасям'ю, калі на еўрапейскім кантыненце, усё ў той жа Беларусі, практыкуецца смяротнае пакаранне і ніякія еўрапейскія заявы не ў стане спыніць гэты працэс, чаму менавіта зараз захацелася азначыць шасцідзесяцігадовую працу прэміяй? Ні годам раней, ні годам пазней! А акурат цяпер, калі ў шортлісце на атрыманне прэстыжнай узнагароды былі прозвішчы менавіта тых змагароў за еўрапейскія каштоўнасці, урады краін якіх пляваць хацелі на ўсе рэкамендацыі Еўразвязу? А самых змагароў трымаюць падалей ад мажлівага поля змагання. І Еўразвяз анічога не можа з гэтым зрабіць.

І справа не толькі ў тым, што гэтая прэмія магла б вызваліць беларускага намінанта Алеся Бяляцкага з-за кратаў, чаго так упарта дамагаецца ўсё той жа Еўразвяз. І нават не ў тым, што гонар за першую ў сваёй гісторыі Нобелеўскую прэмію мог бы падштурхнуць беларусаў больш актыўна рухацца ў бок усё таго ж Еўразвязу. І зусім не ў тым, што нават самыя дэпутаты еўрапарламента выказаліся за ўручэнне прэміі менавіта Алесю Бяляцкаму. Разгубленасць і крыўда ў беларусаў як заўсёды на сябе. І акурат з-за таго, што усё чарговы раз выглядала так, як быццам бы мы - маленькія і наіўныя дзеці, якія ўвесь час зазіралі пад ялінку, чакаючы ад бацькоў каляднага падарунка. А маці ўзяла той падарунак, і аддала яго больш вартаму, на яе думку, іхнаму бацьку.

Наіўныя беларусы. Зусім як дзеці.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на лістапад-снежань 2012 году

**1 лістапада**

У лацінскім абрадзе сьвята Усіх Сьвятых.

**2 лістапада**

Дзяды, дзень памінаньня памерлых.

**3 лістапада**

1345 гадоў таму (667) – Нарадзіўся Сьвяты Губэрт, патрон Гародні.

**6 лістапада**

150 гадоў таму (1862) – У фальв. Якушоўка (Сьвіслацкі р-н) памёр Віктар Каліноўскі, гісторык, археограф, адзін зь ідэолягаў паўстаньня 1863 году. Пахаваны ў Сьвіслачы.

100 гадоў таму (1912) – На Навагрaдчыне нарадзіўся Віктар Войтанка (на эміграцыі Віктар Васілеўскі), дзеяч самакіраваньня, БКА, дзеяч эміграцыі.

**8 лістапада**

380 гадоў таму (1632) – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Уладыслаў Ваза.

**9 лістапада**

195 галоў таму (1817) – Памёр Раймонд Корсак, паэт, удзельнік паўстаньня 1794. Нараджэнец в. Жукоўшчына (Дзятлаўскі р-н).

70 гадоў таму (1942) – Каля Барысава гестапаўцамі расстраляны Генрык Глябовіч, рэлігійны дзеяч, сьвятар, тэоляг. Пазней беатыфікаваны.

**11 лістапада**

75 гадоў таму (1937) – На Салавецкіх астравах НКВД расстраляны (ці 3.11.1937), Максім Бурсевіч, дзеяч заходнебеларускага руху, актывіст Грамады.

**13 лістапада**

120 гадоў таму (1892) – У в. Лаша (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Язэп Троська (сапр. Дудзюк, загінуў пасьля 1930 у савецкіх турмах), беларускі гісторык.

70 гадоў таму (1942) – Памёр Уладыслаў Талочка, беларускі рэлігійны і культурна-асьветніцкі дзеяч, культороляг, гісторык, літаратуразнавец.

**14 лістапада**

120 гадоў таму (1892) – У в. Ярэмічы (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Міхаіл Лойка, беларускі эканаміст.

**15 лістапада**

200 гадоў таму (1812) – Каля Ваўкавыску адбыўся бой паміж французкім і расейскім войскамі.

**16 лістапада**

Дзень Маці Божай Вострабрамскай – апякункі Беларусі.

30 гадоў таму (1982) – Памёр Андрэй Макаёнак, драматург, народны пісьменьнік Беларусі.

**18 лістапада**

75 гадоў таму (1937) – НКВД расстраляны Адам Бычкоўскі (нар. у 1889 у фальв. Талочкі на Сакольшчыне), беларускі грамадзка-культурны дзеяч.

**19 лістапада**

85 гадоў таму (1927) – У в. Ваўчкі (Слонімскі р-н) нарадзіўся Міхась Ракевіч, удзельнік патрыятычнага падполля 1946-47 у Заходняй Беларусі, вязень савецкіх турмаў і канцлягероў.

**20 лістапада**

90 гадоў таму (1922) – У Клецку нарадзіўся Уладзімер Кісель, удзельнік падпольнай арганізацыі Саюз Змаганьня за Незалежнасьць Беларусі, вязень савецкіх канцлягераў і турмаў.

**21 лістапада**

75 гадоў таму (1937) – У Чабаксарах (Чувашская АССР) НКВД расстраляны Павал Каравайчык, беларускі культурны дзеяч, пісьменьнік.

**6 сьнежня**

25 гадоў таму (1987) – Памёр Нікандар Мядзейка, беларускі настаўнік, дзеяч Беларускай Народнай Самапомачы, дзеяч эміграцыі (Францыя, ЗША).

**8 сьнежня**

580 гадоў таму (1432) – Пад Ашмяной адбылася бітва паміж вялікімі князямі Сьвідрыгайлам і Жыгімонтам. Загінула больш за 10 тысяч чалавек.

75 гадоў таму (1937) – НКВД расстраляны Ігнат Дварчанін, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнавец, паэт, педагог.

**9 сьнежня**

90 гадоў таму (1922) – У Гародні адчынены гісторыка-мастацкі музей (дзяржаўны гісторыка-археалягічны музей).

**10 сьнежня**

160 гадоў таму (1852) – У в. Нача (Вараноўскі р-н) нарадзіўся Вандалін Шукевіч беларускі археолаг.

**11 сьнежня**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зацьвердзіў Палажэньне "Аб Дзяржаўным бела-чырвона-белым сьцягу Рэспублікі Беларусь (1991 год).

**17 сьнежня**

95 гадоў таму (1917) – У в. Запольле (Наваградзкі пав). нарадзілася Вера Шостак, беларуская настаўніца, актывістка нацыянальнага руху.

90 гадоў таму (1922) – У в. Пілкі (Мастоўскі р-н), нарадзіўся Георгі Тарасевіч, беларускі архітэктар.

**19 сьнежня**

70 гадоў таму (1942) – У Слоніме гестапаўцамі былі расстраляныя каталіцкія манашкі Багуміла Найшэўская, Марта Валоўская і ксёндз Адам Старк.

**20 сьнежня**

75 гадоў таму (1937) – У Менску НКВД расстраляны Васіль Дружчыц (Друшчыц), беларускі гісторык, педагог. Вучыўся ў Жыровічах.

**22 сьнежня**

80 гадоў таму (1932) – У Заходняй Беларусі пачало дзеіць Таварыства Беларускай Асветы (ТБА).

75 гадоў таму (1937) – У турме НКВД г. Алматы (Казахстан) расстраляны Янка Вярсоцкі, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч.

**24 сьнежня**

70 гадоў таму (1942) – У Трасьцянцы пад Менскам нацыстамі расстраляны Вінцэнт Гадлеўскі, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар.

**27 сьнежня**

120 гадоў таму (1892) – Нарадзіўся (Лідзкі пав.) Міхал Борык, беларускі каталіцкі сьвятар.

**28 сьнежня**

130 гадоў таму (1882) – У маёнтку Лябёдка (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Тодар Іваноўскі (Тадас Іванаускас), беларуска-летувіскі заолаг, педагог.

**31 сьнежня**

210 гадоў таму (1802) – У мяст. Падароск (Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Максіміліян Рыла, філёзаф, археоляг, каталіцкі місіянэр на Блізкім Усходзе і ў Афрыцы.

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі "Радыё Рацыя" - праграма "Людзьмі звацца!", якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
снежань 2012
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

